# Рабочы Бабруйска

24 – 30 жніўня 2000 г. Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 94, www.bobruisk.net. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА. №27


ПЕРСОНА

## СЭНС ЖЫЦЦЯ — БЕЛАРУСЬ

З бардам Рыгорам Спасюком мы пазнаёміліся 3 чэрвеня на III конкурсе нацыянальнай бардаўскай песні і паэзіі "Вольнае вогнішча". Ён зацікавіў мяне сваей неардынарнасцю. Не часта сустрэнеш чалавека, які спалучае ў сабе рысы дзелавой і творчай асобы.

Нарадзіўся Рыгор Спасюк у 1963 годзе у в. Жарно, што пад Ваўкавыскам. Рана памер бацька і сям'я Спасюкоў, маці і чацвера дзяцей, вымушана была перабрацца на Бабруйшчыну, бліжэй да сваякоў. У 15 год пайшоў працаваць. Да арміі паспеў закончыць ПТВ № 38 г. Мінска. У войску трапіў на будоўлю сакрэтнага завода пад Варонежам. Пасля працаваў у калгасе, удзельнічаў у спаборніцтве "Жніво-84" і атрымаў грамату і грашовую прэмію ў памеры 60 рублёў за III месца.

Ажаніўся ў 1986 годзе. З жонкай Аленай пераехалі ў Бабруйск. Нарадзілася дачка, потым сын. Апошнія 12 гадоў працуе на ЗМШ БШК "Белшына" зборшчыкам аўтапакрышак. У гэтым годзе закончыў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. Таксама сёлета Спасюкі скончылі будоўлю хаты.

Самае цудоўнае, што акрамя працавітасці Рыгора Спасюка вылучае тонкае пачуццё сучаснасці. Першыя вершы пачаў пісаць у 90-х на рускай мове. Далучыўся да сяброў літаратурнага аб'яднання пры газеце "Бабруйскае жыцце", дзе і пачаў друкавацца. Доктар філалагічных навук Н. Нанадавец і літаратар С. Кобля заўважылі і падтрымалі маладое дараванне. Паэт Мікола Мельнікаў не адзін раз казаў Рыгору: "Беларус павінен карыстацца роднай мовай. На чужынскай мове не атрымаецца нічога добрага...".

Але ж і праўда. У дзяцінстве ўсе вакол размаўлялі на роднай беларускай мове, і першы раз расейскую пачуў ад сваяка з Піцера. Служба ў войску прымусіла размаўляць па-руску ці на трасцянцы. Звычка звычкай, ды абражала, калі нехта гаварыў пра беларускую родную мову, што яна не прыгожая.



*Беларусь, адна ты маці.*
*Праз гады цябе я шукаў,*
*Праз балоты твае і праз гаці,*
*Праз адчай я цябе сустракаў...*

Жонка Алена – першы слухач і суддзя. Дачка Юля захапляецца беларускімі народнымі песнямі, шмат музыцыруе.

У 1995 годзе была першая спроба складаць песні. У 1998 годзе Рыгор прыняў удзел у першым конкурсе беларускай бардаўскай песні, заняў прызавое месца. Пад час конкурсу пазнаеміўся з прыхільнікамі беларускай культуры, сябрамі Таварыства беларускай мовы. Пачаў выступаць у Арт-клубе "Роднасць" пры АТ "ФанДОК".

*Не пакідайце мовы*
*роднай беларускай,*
*Яна крыло тваё і*
*Божы дар.*
*Пакуль жыве яна і*
*ты магутны,*
*Сваей зямлі сапраўдны*
*гаспадар.*

Зараз у скарбніцы Рыгора каля 100 вершаў. Ёсць і апавяданні. Ён марыць выдаць зборнік вершаў, запісаць касету песен. Не за гарамі той час, калі чытач можа пазнаёміцца з паэтам Рыгорам Спасюком на старонках зборніка бабруйскіх паэтаў (у зборнік увайшлі 20 вершаў Р.Спасюка). Асноўная тэма творчасці – надзённае жыццё, з яго праблемамі і радасцямі.

Разважаючы на тэму нашага цяжкага эканамічнага стану Рыгор заўважыў, што галоўнае – даць людзям зарабіць, даць магчымасць забяспечыць сям'ю. І людзі самі павінны змяніць свае адносіны да працы, не "хапаць", а культурна працаваць.

Да саюза з Расіяй, у тым выглядзе, у якім прапаноўваюць нам ўлады, ставіцца адмоўна. Бо калі аб'яднацца, то ўся хваля наркаманіі, карупцыі, бандытызму накрые Беларусь. З Расіі прыдуць "брудныя" грошы.

Беларусь павінна быць незалежнай, праводзіць палітыку нейтралітэту, прыцягваць замежных інвестараў, каб адрадзіць эканоміку, выкарыстоўваць навейшыя тэхналогіі. А з суседзямі: Расіяй, Польшчай, Літвой, Украінай трэба мець добрыя адносіны і супрацоўнічаць на ўзаемавыгадных умовах.

**Дана ЧЫГІР.**

КРЫМІНАЛ

## ДАМАНОЎСКАЕ ПАЛЯВАННЕ: СЛЕДСТВА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Працягваецца разгляд крымінальнай справы па факту абстрэла 5 жніўня паляўнічымі лагера адпачынку, у якім знаходзілася моладзь. Інцыдэнт гэты адбыўся ля вёскі Даманова ў Бабруйскім раёне. Тады, у выніку бязладнай страляніны, адкрытай нецвярозымі "стралкамі", адзін са шротаў трапіў у нагу шаснаццацігадовай Юліі Бабковай. Усхваляваная моладзь тэрмінова скруціла палаткі, а вярнуўшыся ў горад, напісала заявы ў Беларускі Хельсінскі Камітэт, у пракуратуру. Тая даручыла правесці папярэдняе расследаванне міліцыі. Хлопцаў і дзяўчат пачалі выклікаць у якасці сведкаў здарэння ў Бабруйскае раённае ўпраўленне ўнутраных спраў.

Калі ў першыя дні паводзіны супрацоўнікаў міліцыі ніякіх наракання не выклікалі, дык некалькі дзён таму сітуацыя дыямятральна змянілася. Запрошаных на "гутарку" 16 і 17 жніўня актывістаў мясцовай філіі Маладых сацыял-дэмакратаў Віталя Краснеўскага і яго непаўнагадовага брата раптам закідалі пытаннямі, не маючымі да справы ніякага дачынення. Старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах Бабруйскага райаддзела міліцыі маёр Нікалайчык пачаў цікавіцца тым, хто ўцягнуў моладзь у палітыку, хто і дзеля чаго вывешваў на шасце сцяг, якія арганізацыі ўдзельнічалі ў летніку, мэты яго правядзення... А праслухаўшы натацыю аб тым, што яны сваімі ўчынкамі і дзеяннямі ганьбяць міліцыю, хлопцам здалося, што ў іх цяпер могуць пачацца непрыемнасці ў тэхнікуме, ды аб тым, што можа ўзнікнуць нават пагроза хадзіць па той вуліцы, дзе яны пражываюць.

Удзельнікі летніка, з якімі нам удалося паразмаўляць, лічаць, што псіхалагічны ціск выкарыстоўваецца міліцыяй з мэтай спыніць нежаданае расследаванне. Маўляў, маладыя людзі, палова з якіх непаўнагадовыя, спужаюцца ды забяруць заяву назад. Вось толькі моладзь, хоць і моцна ўражаная паводзінамі афіцэраў у блакітных пагонах, трымаецца мужна і намерана давесці справу да лагічнага заканчэння.

18 жніўня раённая пракуратура накіравала матэр'ялы расследавання ў Магілёўскую абласную пракуратуру.

**Віктар КУЛІКОЎ.**

БУДНИ

## Вечный огонь – барометр "Белшины"

Опять погас "Вечный огонь" в Еловиках, а так как финансируется он "Белшиной", то можно говорить о некоторых денежных трудностях завода-гиганта. Выступая по местному телевидению, зампред облисполкома Николай Жук посетовал, что БШК "Белшина" портит области все показатели. В будущем "Белшину" может ждать акционирование. Поговаривают, что акционеры прибудут из братской России.

**Соб. инф.**

## Падлячы нам, Пятруха, камбайн...

Токара бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў Пятра Капусьціна летась паслалі ў слаўгарадскі калгас «Рассвет». Для шэфскай дапамогі вёсцы. Там ён сваімі рукамі адрамантаваў камбайн, 18-гадовую «Ніву», і яшчэ папрацаваў на полі. Сёлета калгас спецыяльна папрасіў завод, каб той даслаў у гаспадарку таго токара. Завод працяглы час адмаўляўся. Бо гэты спэцыяліст — адзін з самых дасведчаных на прадпрыемстве, у яго 20-гадовы стаж. Спатрэбілася, каб з гарвыканка-ма патэлефанавалі на прадпрыемства — тады заводу нічога не засталося, як Капусьціна выправіць у вёску зноў. Відаць, 18-гадоваму камбайну няпроста даецца пераход да паўналецця.

## Пенсіянеру пашанцавала

Не паспеў пенсіянер Алейнікаў адчыніць дзверы свайго металічнага гаража, як пачуўся страшэнны трэск, грукат, і на гараж звалілася таўшчэнная плакучая іва, што расла за агароджай на тэрыторыі дзіцячага садка.

На шчасце сам пенсіянер не пацярпеў, бо, не гледзячы на хворую нагу, паспеў адскочыць.

Як чалавек старога гарту, дзядзька Андрэй не стаў спадзявацца на домакіраўніцтва, а сам распілаваў дрэва, паабсякаў галіны. Праз две гадзіны справа была скончана. Дровы забраў знаёмы, які жыве па суседству ў прыватным сектары. Пра здарэнне напамінаў толькі пень на тэрыторыі садка, ды пенсіянерскія козы, якія мірна аб'ядалі зялёнае лісце.

Дарэчы гэта ўжо другі выпадак у 2000 годзе, у дзіцячым садку № 53. Зімою раскалолася і абвалілася вялікая бяроза. Тады таксама абыйшлося без ахвяраў. Аднак на тэрыторыі расце яшчэ адна вышэнная старая таполя.

Дык ці трэба чакаць?

**Людміла РОДЗІКАВА.**

## Ужас да и только

Страшную находку сделали двое рабочих одного из бобруйских кооперативов, заготавливавших в районе загородного кладбища песок для строительных нужд. Примерно на глубине одного метра они наткнулись на деревянный ящик, открыли его и, к своему ужасу, обнаружили в нем полуразложившиеся человеческие ноги! Напуганные этой находкой, рабочие обратились в милицию. Как потом выяснилось, всего в ящике находилось восемь ампутированных нижних конечностей человека. Причем ампутированных явно профессионально, со знанием дела, что сразу навело следствие на мысль поискать "инициаторов" этого захоронения в местных медицинских учреждениях. Должно быть скоро найдут, если эта версия милиции окажется верной.

**Анатолий САНОТЕНКО.**

## КОШТЫ НА КАЛГАСНЫМ РЫНКУ БАБРУЙСКА

| | |
|---|---|
| АРБУЗ | 170-200 руб. |
| ДЫНЯ | 450 руб. |
| ТАМАТЫ | 350-400 руб. |
| АГУРКІ | 200 руб. |
| БУЛЬБА | 100-120 руб. |
| ЯЙКІ (1 дзес.) | 500 руб. |
| СВІНІНА (выразка) | 2800 руб. |
| (кумпяк) | 2500 руб. |
| ЯЛАВІЧЫНА | 1000-1700 руб. |
| ЦЯЛЯЦІНА | 1200-2000 руб. |



**55-81-78**

***Каждый четверг с 15:00 до 18:00 вас слушает «Рабочы Бабруйска»***

СПОРТ

# ТРЭНЕРЫ МЯНЯЮЦЦА, А ВЫНІКУ НЯМА...



13 жніўня ў 17-м туры чэмпіяната краіны па футболу бабруйская "Белшына" прымала на сваім полі віцебскі "Лакаматыў-96". Нашы землякі выйшлі на гульню ў наступным складзе: варатар Жэмчугаў, абаронцы Шагойка, Балтрушэвіч, Свердлаў, Хрыпач, паўабаронцы Дземідчык, Эдуард Градабоеў, Абдурахманаў, Ланько, нападаючыя Каролік і Захарчанка.

Пачатак матча абедзве каманды пачалі невыразна, быццам прыглядаючыся адна да адной. Ужо на першых хвілінах лакаматыўцы Васільчук і Ерэмееў выйшлі на вароты, ахоўваемыя Жэмчугавым, і, не сустракаючы ніякага супраціву з боку абаронцаў гаспадароў, так разгубіліся, што не здолелі вырашыць, што ж рабіць з мячом. У наступныя дваццаць хвілін больш-менш небяспечных момантаў не ўзнікала. Балельшчыкі, засумаваўшы, сталі блукаць поглядамі вакол зялёнага прамавугольніка, заўважыўшы ўрэшце рэшт, што экскаватар, які раней стаяў побач з новабудоўляй "паўночных" трыбун, ужо знік. Рэзюмэ заўзятараў было лаканічным: "Гэтая будоўля зацягнецца надоўга…"

Тым часам на 27-й хвіліне гасцям удалася прыгожая шматхадовая камбінацыя, замкнуў якую Косак: 0:1. Амаль адразу "Белшына" магла аднавіць лік – Ланько аддае зручны пас навабранцу Захарчанку. Той нязграбна б'е – вышэй варот. Яшчэ праз некалькі імгненняў таго ж Захарчанку прытрымлівае за руку ля самай штрафной нехта з абаронцаў гасцей. Штатны выканаўца стандартных становішчаў Балтрушэвіч, прабіўшы на моц, трапляе ў галкіпера.

На другі тайм замест расійскіх навічкоў Абдурахманава і Захарчанкі выйшлі Балашоў і Шушкевіч. Аднак з іх з'яўленнем на полі мала што змянілася. У складзе "Белшыны" у гэты дзень прысутнічала толькі агульная шэрая маса. Нават капітан Андрэй Хрыпач, які заўседы вылучаецца бескампраміснасцю, не здолеў пазбавіцца ад стану нейкага гіпнатычнага транса, ахапіўшага калектыў. А гэта быў яго 200-ы матч за "Белшыну"…

На 55-й хвіліне некалькі лакаматыўцаў убеглі ў контратаку, Кузьмініч не пасквапнічаў, Трухаў не прамахнуўся – 0:2. Злавіўшы кураж. Трухаў паўдзельнічаў і ў наступным галявым моманце, узнікшым у "белшынаўскіх" тылах. Але мяч прайшоў над перакладзінай. У сярэдзіне тайма гаспадары "праспалі" яшчэ адзін небяспечны контрвыпад – выратаваў Жэмчугаў. Астатні час акрылены "Лакаматыў" някепска камбінаваў і легка гасіў інерцыйны супраціў сапернікаў. А разгубленыя белшынаўцы пажыналі плады непрафесійных адносін да справы.

Галоўны трэнер Валерый Чэтверык, каментуючы прычыны паразы, чарговы раз пацвердзіў факты парушэння дысцыпліны. І сапраўды, калі футбаліст тыдзень не ўдзельнічае ў трэніровачным працэсе, які клас гульні ён здолее прадэманстраваць?

Але замест таго, каб пазбавіцца ад такіх "прафесіяналаў", кіраўніцтва вырашыла па-іншаму. У выніку 15-га жніўня расійскі трэнер вымушаны быў аб'явіць аб сваім сыходзе. А ўжо праз два дні згоду на тое, каб узначаліць трэнерскі штаб, даў Вячаслаў Акшаеў, звольнены напярэдадні з паста галоўнага ў ФК "Гомель". Вядома, В. Акшаеў карыстаецца павагай футбалістаў, нягледзячы на адносную маладосць, з'яўляецца дастаткова дасведчаным і кваліфікаваным спецыялістам. Вось толькі адразу ўспамінаецца лёс яшчэ аднаго, вельмі падобнага на яго па якасцях і поглядах, вядомага спецыяліста з літоўскім прозвішчам…

Турнірную табліцу ўзначальвае мазырская "Славія" – 39 ачкоў. "Дынама" Мінск – 34, "Нёман-Белкард" Гродна – 33. "Белшына" на дзявятым радку – 21 ачко.

**Віктар КАЧАН.**

ГЛАС НАРОДА

**Даже во время политического и вообще событийного затишья мы стараемся держать ушки на макушке, дабы слышать телефонный "глас народа". На этот раз нас заинтересовали не только народные голоса, но и... взгляды.**

**Осенью должны состояться выборы в так называемую Палату представителей. "Политики-абитуриенты" будут бороться за то, чтобы "пройти по конкурсу" и стать "политиками стационарными". "Но, впрочем, песня не о том", не о выборах как таковых. Образ политика – вот что нас заинтересовало.**

**"Каким, на ваш взгляд, должен быть современный политик?" Так мы сформулировали первый вопрос для наших телефонных респондентов, и второй, добавочный: "Определите разницу между понятиями "политика" и "политиканство".**

**Напоминаем, что вербальный контакт осуществляется посредством набора случайного телефонного номера (30 удачных попыток). Данный опрос социологическим не является и на репрезентативность не претендует.**

**Наиболее интересные ответы предлагаем вашему вниманию.**

# ЧИСТЫЕ СТОРОНЫ ГРЯЗНОГО ДЕЛА

**Олег Анатольевич, 41 год:**

*– Известно, что идеальных людей нет. Но политик - это человек, от которого, в той или иной степени, зависят тысячи людских судеб. И в связи с этим хотелось бы, чтобы у политиков положительные качества преобладали над отрицательными. Для начала, думаю, достаточно такого понятия как "честность".*

*Политика – грязное дело, но внутри самое себя; политиканство же – загрязнение окружающей действительности.*

**Анна Адамовна:**

*– Хороший политик должен во всем поддерживать президента, а не мешать ему, как эта оппозиция. Честность, порядочность, ответственность перед руководством за выполнение поставленной задачи, вот что надо.*

*У нас в республике – мудрая политика, а в остальном мире – политиканство.*

**Сергей Алексеевич, 37 лет:**

*– Когда-то была такая песня: "Раньше думай о Родине, а потом о себе". Вот это как раз и есть руководство к действию для человека от политики. Он должен служить своему делу, а не дело – ему. Думаю, что в самом лучшем случае такой человек должен обладать способностью к самопожертвованию во имя тех, кто его выбрал.*

*Команда, составленная из таких людей, как раз и будет творить политику; а если во имя личных интересов приносится в жертву народ – это политиканство.*

**Антонина:**

*– Мужчина-политик должен быть, в первую очередь, приятным человеком – и внешне, и в общении. Ведь он – лицо народа, его поддерживающего. И это "лицо" должно быть не кривым, речь – не бессвязной, манеры – не мужланскими. Короче, политик должен быть интеллигентным человеком, а такой человек, в идеале, – обязательно положительный.*

*Политика – это профессия: политиканство – преступление.*

**Андрей, 29 лет:**

*– Профессионализм, энергичность, решительность, эрудированность, обширная, многопрофильная база знаний и желание изменить мир к лучшему – вот примерный набор качеств, которые желательно иметь политику. Вообще, думаю, что политиками должны быть лучшие представители нации.*

*Цивилизованная форма политики – это средство от социального застоя общества. Политиков должно быть много, дабы в открытом споре между собой они искали и находили истину. Несостоявшиеся уходят со сцены. Политиканство – это либо самореклама, либо паразитизм. Одним словом, коррупция. И еще: политикан никогда не уйдет сам.*

**Опрашивал народ А.ЛИТВИНОВ.**

КРИМИНАЛ

# БОБРУЙСКИЕ МАФИОЗИ

Жизненные пути-дороги Дениса Тихонова и Евгения Татарова были, как пишут в романах, не розами усыпаны Еще не дожив и до 30-ти лет, оба успели близко познакомиться с Уголовным кодексом. Для Дениса, правда, кража прошла без особо тяжких последствий: всего-то и получил год с отсрочкой. А вот Женьке повезло меньше: две "ходки", и обе от звонка до звонка. В родном Донецке он, правда, не был крутым мафиози. В первый раз сел за квартирную кражу. К слову сказать, в числе похищенного за ним числились: магнитофон «Панасоник» и... унитаз со смывным бачком. Во второй раз угодил за решетку, будучи пойман в поезде с пакетом маковой соломки. Видимо, именно на почве общности судеб и завязалась дружба Тихонова и Татарова. Евгений в Бобруйске поселился у матери, Денис жил вместе с престарелыми родственниками. Разве дождется молодой энергичный мужчина понимания от дряхлых предков? Вот и коротали время вдвоем, как умели.

В ненастный октябрьский день, сидя в саду за бутылкой дешевого «чернила», Денис жаловался другу:

— Что толку вкалывать? Ну, вот я, например, работаю на заводе напитков. Ты думаешь, на эту зарплату сильно разгуляешься? Ни черта. Думаешь, на месте можно хоть сто грамм своей же продукции опрокинуть? Как же, станет кто-то наливать помощнику кочегара.. А посмотришь – люди живут, на иномарках катаются, коньяки в горло заливают...

— Да, не повезло нам, – философски заметил Жека и, подумав, добавил, – но это дело можно и поправить...

Обсудив вопрос всесторонне, друзья пришли к выводу, что исправлять свое бедственное положение лучше всего в каком-нибудь сельском магазине. Сигнализации там нет, милиция далеко, так что предприятие должно пройти удачно.

«На дело» собирались недолго: Денис сбегал домой, взял черную вязанную шапочку, моток скотча и... опасную бритву. Вывел из сарая теткин велосипед. А Жеке и того не понадобилось: нож в кармане капюшон на куртке – чего ж еще? Вот так и поехали мафиози на грабеж: вдвоем на одном велосипеде. Один за рулем, другой на раме, как Чебурашка с, крокодилом Геной. Деревня Ломы от Бобруйска недалеко, доехали быстро...

Марья Виноградова уже собиралась закрывать магазин, когда вошли два молодых подвыпивших парня.

— Хозяюшка, пивка не найдется? – заулыбался Денис, видя ее недовольное лицо. –- Ты не закрывай, ладно? Мы тут в лесочке пустую тару оставили, чуть позже принесем.

— Да ладно уж, подожду, — невольно улыбнулась Мария.

«Разведка местности» прошла удачно. Пока пили пиво, в магазин зашла только какая-то старушонка. Эта помехой не будет. Друзья приготовились к решающим действиям.

Коротая время за беседой, женщины не сразу обратили внимание, что на одном из вошедших «покупателей» надета шапочка, закрывающая лицо, другой плотно надвинул на голову капюшон. Увидев перед собой «фантомаса», Мария пронзительно закричала. А тот уже приставил к ее горлу бритву:

— Давай деньги! Живо!

Мария в ужасе осела на пол. Подхватив женщин под руки, потащили их в подсобку. Татаров приставил нож к горлу Ульяны:

— Только вякни, старая! Здесь тебе и конец.

Он швырнул старушку в угол, и оба бандита бросились избивать Марию, требуя деньги. Несчастная женщина и рада была бы их отдать (не умирать же, в самом деле, за эти копейки!), но озверевшие грабители даже не позволяли ей шевельнуться.

Возбужденные видом крови, они похоже, забыли, что их целью было не убийство, а только грабеж. До настоящей трагедии оставались считанные секунды...

К счастью, проходивший мимо Иван Махонек услышал крики и подозрительный шум. Старик бросился за подмогой. Его сосед Иван Кубраков мгновенно уяснил ситуацию: в магазине кого-то убивают. Раздумывать времени не было.

Когда мужчины вбежали в магазин, Татаров сразу понял, что операция срывается.

— Денис, сматываемся! – с этими словами наш «герой» отбыл в неизвестном направлении.

А Иван Кубраков тем временем вступил в схватку со вторым грабителем. Тихонов, размахивая бритвой, пытался тоже прорваться к выходу. Один взмах, другой... Из порезанной руки Ивана хлынула кровь.

— Отойди, дядька! Порешу, - прохрипел бандит.

— Ага, сейчас, – кивнул Кубраков. Ловким ударом он выбил оружие из рук «фантомаса» и одним движением свалил грабителя на пол. С полки дождем посыпались бутылочки с шампунем. В разгаре схватки Тихонов потерял свою шапочку, еще пытался отбиваться, но конец охоты был уже близок: Кубраков сумел-таки перевернуть его вниз лицом и связать ему руки подвернувшимся полотенцем.

Денису Тихонову досталось 9 лет лишения свободы в колонии усиленного режима, Евгению Татарову - 10 лет. А так обыденно все начиналось...

**Ирина ВЕРБИЦКАЯ.**